*Алесь Бадак нарадзіўся 28 лютага 1966 года ў вёсцы Туркі Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, Пасля заканчэння Федзюкоўскай сярэдняй школы паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі. Зараз працягвае вучобу ў Белдзяржуніверсітэце. Вершы паэта друкаваліся ў рэспубліканскай перыёдыцы, у калектыўных зборніках «Вусны» і «Маладыя галасы», а таксама ў альманаху «Дзень паэзіі».*

*Алесь Бадак — удзельнік семінара маладых літаратараў у Каралішчавічах 1982 года і Усесаюзнага фестывалю маладых паэтаў у Алма-Аце 1987 года.*

Жывуць у небе змалку
На лецішчы вятроў —
Сястра мая маланка
І сумны брат мой гром

ББК 84 Бел7
Б 15

Серыя заснавана ў 1968 г.

Зборнік на грамадскіх асновах адрэдагаваў
Алег Лойка

Прадмова
Уладзіміра Някляева

У молодого поэта обычная биография — деревенское детство, служба в армии, учеба па филфаке университета. Лирически осмысливая этот свой небольшой жизненный опыт, Алесь Бадак свободно перевоплощает его в поэзию чувства, в поэзию настроения.

Б 4702120202—066 / М 302(03)—89 68 – 89

ISBN 5-340-00385-X

# ЧАКАЮЧЫ СВЯТА

На схіл ідзе другая палова 80-х гадоў, на ветах — апошняя чвэрць стагоддзя... Час, калі ў цэлым у літаратуры назіраецца спад, пакуль што не яўны, не відавочны для чытачоў, для крытыкі, бо наўкол — дэкарацыі ўздыму. Але ў рэальных навальніцах грамадскага жыцця выспяваюць свежыя сілы. У творчы працэс уключаюцца празаікі і паэты, здольныя не толькі падтрымаць, але і ўзняць узровень сучаснай нашай літаратуры, надаць ёй новыя якасці, разнастаіць яе жанрава, стылёва, тэматычна. Сёння ўжо гэта можна сцвярджаць без асаблівай рызыкі памыліцца.

Дае падставы для такіх спадзяванняў і талент Алеся Бадака. Найперш — закладзенымі ў ім патэнцыяльнымі магчымасцямі. Ну і, зразумела,— без чаго не было б пра што гаворку весці,— сваім увасабленнем у лепшых вершах кнігі «Будзень».

Аснова гэтага таленту — рухомая эмоцыя, абвостранае пачуццё, тое, што вызначаецца ў паэзіі як лірыка. Адсюль — найбольшы давер інтуіцыі, перавага «імгненпай здагадкі над доўгаю думай». Якасць гэтая,— надзвычай каштоўная для паэтычнага самавыяўлення,— прыродная ў Алеся Бадака, таму зусім натуральна, не выклікаючы пярэчанняў, успрымаецца ў ягоных вершах спаконвечны, селекцыйны набор рэфлексій лірычнага паэта:

жах перад адзінотаю — і пошукі, і змушаныя ўцёкі ў яе, як у адзінае сховішча;

прага жывога, рэальнага кахання — і балючае несуладдзе з каханай праз спробу падмяніць яе ідэалам;

парыванні душы да свабоды і волі — і адчай праз немагчымасць вызваліць яе з ярма мітуслівых звычак...

І гэтак далей.

Такой бяды, што пра ўсё напісана процьма вершаваных радкоў, у тым ліку геніяльных. Кола вечных тэм на тое і кола, на тое і вечнае... Для пранізлівай навізны тут іншым разам дастаткова нюансу, адцення, нечаканага збою дыхання там, дзе астатнія дыхаюць роўна: «Я голас твой прывёз к сабе дамоў, ды без цябе ён хутка задыхнецца». Алесю Бадаку гэта шчасліва дадзена.

Тое, што паэту дадзена, нельга ў яго забіраць. Не трэба лірыка падштурхоўваць у спіну на эпічны прасцяг, нацкоўваць яго на праблемы сучаснасці. Ды яшчэ галёкаць: там мяса! Праз гэта і з пакалення Панчанкі, і з пакалення Барадуліна, і з пакалення Разанава

паэзія наша — талентамі сваімі пераважна лірычная — шмат чаго не дабрала...

Аднак, але і ўсё ж:

тэматычная звужанасць, абмежаванасць тых рэалій, у сутыкненні з якімі вызваляецца энергія паэзіі, для многіх з пакалення паэтаў 80-х гадоў, новай хвалі, можа стаць прычынаю сур'ёзнай творчай драмы. Хай сабе нават звужанасць гэтая падаецца як свядомая і апраўдваецца самаахвярным прызначэннем: «Бліжэй і бліжэй за спіною пагоня, ніжэй і ніжэй нада мною мячы». У купцы з яшчэ двума-трыма вершамі верш «Пагоня» ўтварае адзін-адзіны на ўсю кнігу матыў, які хоць ледзь-ледзь пашырае яе тэматыку, надае ёй нейкія прыкметы стэрэафанічнага гучання. Таму я і не хацеў бы, а вымушаны выказаць перасцярогу. Тым больш што ў апошніх вершах Алеся Бадака ў параўнанні з ранейшымі самастойнасць некалькі адступае пад уплывам іншых паэтаў, старэйшых ягоных таварышаў і аднадумцаў. Думаю, уплыў гэты наколькі непазбежны, настолькі і часовы.

Алесю Бадаку 23 гады. Нават не прыпомню зараз, у каго з паэтаў выходзіла апошнім часам кніжка ў такім узросце. Вядома, тут і выдавецтва не паленавалася, не затрымала дэбют, але і сам паэт прымусіў заўважыць сябе яшчэ ў школьную пару. Так што ніяк нельга лічыць яго пачаткоўцам і паблажліва спісваць на тое недапрацоўкі ў асобных вершах, агульныя слабасці кнігі. Па мне гэта было б крыўдна — таму і не абмежаваўся я ў сваёй прадмоўцы звычайным блаславеннем.

Адкрывае Алесь Бадак першую сваю кнігу чатырохрадкоўем, у якім называе маланку і гром сястрою і братам. Сваяцтва небяспечнае, аднак такое, ад якога не адракаюцца.

Уладзімір Някляеў

# ВЫТОКІ ДАРОГ

## МАЦІ

Старэнькая маці
Зарання прачнецца.
Уходзіцца спешна.
У горад збярэцца.
Яшчэ раз падлічыць
Бязважкія грошы.
Не скажа суседцы,
Куды і навошта.
І душны аўтобус
За вёскай запыніць.
У горад паедзе,
Паедзе па сына.
Вы ёй не кажыце
Пра грэх і законнасць.
Вы ёй не дакажаце
Сёння ўсё роўна.
Яна не паверыць
Ніводнаму слову.
Ёй трэба начальнік,
І самы галоўны.
Яна уздыхне адно:
«Божа мой, божа!»
З сабой павязе
І надзею і грошы.
І будзе дарогай
Паціху маліцца
Да самай, да самай
Раённай міліцыі.

## ПАЛЯЎНІЧЫ

Паслізнуўся на кладцы —
І знік
У бяздонні халоднае твані.
Ачмурэлы, прыдушаны крык
Над балотам шукаў ратавання.
Будзе заўтра сястра галасіць,
Будзе ўсхліпваць спалохана дочка.
Будзе рваць на сабе валасы
Звар'яцелая жонка.
І досыць
Нагаворыцца вёска тады,
Праклінаючы зноўку балота.
Колькі з ім яна мела бяды!
Але станецца ўсё гэта —
Потым.
А пакуль што
Ні гора, ні слёз.
На балоце ад раніцы
Светла.
Каля кладкі —
Нябачна здалёк —
Разгараецца
Свечкаю
Кветка.

## КУСТ РАМОНКАЎ

Восень.
Недзе хмары воду
носяць у прыполах.
Ледзь трываючы
ад холаду і ад знямогі,
Долу хіляцца рамонкі
ў адзічэлым полі
І ніяк свае пялёсткі
падабраць не могуць.

## ЦІШЫНЯ

Чым скончыцца
такая цішыня?
Дзіцячым смехам,
гулам самалёта
Ці тупаценнем
быстрага каня,
Што задрамаў,
прывязаны да плота?
Машына
пыл па вёсцы растр асе
Ці ў возе
грукат правязуць вясёлы?
Стамлёны вецер
дрэмле на страсе
Старэнькае, закінутае
школы.

## НА ПАШЫ

Мулка на цені сваім пастушку.
Жмурыць блакітныя вочы і сумна
У неба глядзіць і чакае, пакуль
Воблака
Сонца ў кішэню засуне.

Зрэдку ўздымае цяля галаву
І на раку пазірае.
Цягнецца пуга далей у траву,
Ды пугаўё не пускае.

## СТАРАЯ ХАТА

Хатка —
старою шпакоўняй
з трыма сумнымі цьмянымі ваконцамі
тулілася на ўскрайку вёскі
сваім трухлявым бокам
да маладой бярозы.
Хата замінала ёй
цягнуцца ўгору;
крывіліся галіны,
не ў сілах вырвацца
на волю,
Пахіліўся ствол.

Бачылі,
як павольна, але ўпарта
дрэва расло.
Не бачылі,
як павольна ўрастала,
апускалася ў зямлю хата.

Зрэдку з дзвярэй
выходзіла старэнькая бабуля
даць япручку
ці прынесці дроў,
каб выпаліць у печы.
Часам з надворка
няслося ў свет
слабое каханне сякеры
альбо незадаволенае, нуднае
вішчанне пілы.

Нікога не чапала старая,
ні з кім не сварылася
(хіба адно
            са сваім япручком),
нікуды не хадзіла,
нібыта цуралася людзей.

І людзі таксама
не чапалі яе.
Трава раз'ела
сцежку з надворка на вуліцу,
нечапаную людскімі крокамі.

Дужэла бяроза.
Апускалася хата.
Усё радзей і радзей
паказвалася на свет бабуля.

Шумела бяроза.
Апускалася хата.
Вось ужо па самыя вокны
асунулася ў зямлю.
Вось ужо гарбаціўся
адзін толькі дах.
Нарэшце і яго не стала.
Засталася пустэча і —
                                        бяроза.

Спахапіліся:
як дапусцілі,
каб гэтулькі зямлі
                           пуставала!

Пасеялі,
             можа, канюшыну,
             можа, пшаніцу.

Шумела бяроза.

## СУСЕД

…Стукне чаркай аб стол ён штосілы,
Уздыхне
І прамовіць спакойна:
«Справядліва ты кажаш,
Усім нам
Не даруюць нашчадкі такога.
Праўду кажаш ты, браце мой,
Годзе
Нам саромецца роднае мовы».
Да канапы ён з цяжкасцю дойдзе
І раздзецца, напэўна, не зможа.

А на раніцу выйдзе па дровы,
Да старэнькага плота прыткнецца,
Нагадае мне гэту размову
І з сябе і з мяне
Пасмяецца.

## ГРОШЫ

Што трасешся над грашыма,
Сохнеш ад змарнелых дум?
Дом
З завоблачнай вяршыняй,
Свет здзівіўшы,
                    пабудуй.
Хай зайздроснікі скусаюць
Губы, рукі да крыві.
Хай галовы задзіраюць,
Плюнь ім зверху і —
                              жыві.
Звон крыштальны ўсцешыць слых твой,
Заглушыўшы п'яны сум.
Будзем імпартнаю лыжкай
Картапляны есці суп.
Бойся слабасці ў жанчынах:
Могуць здрадзіць і ўцячы
Непрыкметна і з грашыма.
Бойся сілы — у мужчын.
Бойся злодзеяў.
Знаёмых —
Добрых, кепскіх —
Абміні.
Зачыніўшыся у доме,
«Ну іх к д'яблу»,— уздыхні.
Не залезеш ім у душы.
Не напісана на лбе,
Што іх там —
                    нянавісць душыць
Ці павага
Да цябе.
Ненароджаныя дзеці
І не ўздумаюць спытаць:
Столькі грошай —
                              як ты,
                              дзе ты
Зарабляў іх?
Ці чакаць

Тваёй смерці.
Чуеш, смерці!
Іх няма.
Жыццё, як рай.
Ты адзін у цэлым свеце
Гаспадар свайго дабра.
Зрэшты, хопіць!
Што ж маўчыш ты?!
Плюнь на грошы
І скажы:
Глупства ўсё
І немагчыма
Аднаму на свеце жыць.
Плюнь на грошы.
За парады
Ад сябе мяне гані.
Прагані мяне,
                    парадуй.
Пракляні!

Засмяяўся: «Складна, хай ты...»
Рукі мне паклаў на плечы:
«Дурань ты яшчэ, хлапеча!
Ну, бывай!»
І знік у хатцы.

## МАРА[1]

*...Вярнуўшыся дамоў, убачыў, што ў яго хаце сядзіць жанчына, у якой з рук цячэ кроў. Прыгледзеўся, а на іх падковы.*

З легенды пра мару

— Прытулі мяне, Янка.
Паслухай,
Б'ецца сэрца спалохана як.
— Ну, чыя ты ўсё ж,
Весялуха?
Не пазнаю ніяк.
Галаву павярнула паволі.
— Што глядзіш так?
Ці, можа, не рад?
Прашаптаў,
Адступіўшы міжволі:
— Ты — мара!
Ах ты!..
Свіснула пуга штосілы,
Апусцілася прама між плеч.
— Згінь, пачвара!
(О божа мой мілы!)
Прэч!
А яна рагатала за дрэвам:
— Непрывецен ты
З госцяй сваёй!
Мой міленькі,
Мне многа не трэба:
Адну ночаньку толькі
З табой.
Ты спазнаеш жаночыя ласкі
І гарачыя губы мае.
Дык ідзі ж хутчэй,
мілы мой, слаўны,
Да каханкі свае.

---

[1] Мара — вобраз народнай дэманталогіі: прывід, злы дух.

— Згінь, пачвара! —
шаптаў ён са страхам.
Сохнуў пот
На гарачым ілбе.
— Я вярнуся яшчэ,
мая радасць!
Я кахаю цябе!
Зноўку свіснула пуга,
І ўбачыў
Чалавек,
Як з-за дрэва наўпрост
Праз гароды
страшэнны сабака
Нетаропка пабег
на пагост.
А на золку
Знаёмая постаць
Асцярожна прыйшла пад акно.
Прахапіўся.
Прыгледзеўся.
— Хто там?
Зноў?!
Чалавек,
Нацягнуўшы адзежу
І пад лаўкай узяўшы тапор,
Выйшаў з хаты упэўнена:
— Дзе ты?
І замёр.
Гожы конь тупацеў на падворку.
З насцярогай глядзелі яго
Чалавечыя
чорныя вочы.
— Ну, чакай жа, няпрошаны госць
І спалохана рыпнулі дзверы.
І прыціхнуў даверліва конь.
І спяшаўся,
таропка прымерваў
Чалавек яму
дужкі падкоў.
А пасля
усміхнуўся зларадна

І ў хату пайшоў —
Гаспадар.
Распрануўся ў парозе.
І раптам
Ён ўбачыў
                дакорлівы твар
Незнаёмай прыгожай жанчыны.
І сачылася з рук яе
                        кроў
З-пад жалезных іржавых падкоў.

## МАЛАДЫЯ

На гэтым надворку
штодзённыя сваркі,
І вецер па вёсцы
разносіць іх моўчкі.
А не данясе
там да нейкага ўскрайку —
Яму языкі
данясці дапамогуць.
І, перш абсмактаўшы ў іх
кожнае слова,
Зазначаць: не быць тут
любві і багаццю.
Штодзённыя сваркі
жывуць адмыслова
У гэтай маленькай
і просценькай хаце.
...Калі ж на зашчэпку
зачыняцца сені
І ў хаце святло
да світанку патухне,
Ля ложка пачуецца
шорах адзення,
І глуха абутак
у цемені стукне.
І цемень напоўніцца
сцішаным смехам,
Даверлівым шэптам
і частым дыханнем.
У сценах заблудзіцца
ціхае рэха,
Пяшчотнае рэха
кахання.

## КУФАР

— Бог помач, Настуля!
— Здароў, здароў,—
ледзьве заварушацца губы,
плюхнецца вада ў аблезлае вядро,
прашморгаюць сандалі па надворку,
сонна разявяцца дзверы,—
і зноў цішыня.

У хаце прыцемак.
Сонца
зламала свой промень
аб пажаўцелую занавеску,
і яго кавалак упаў на падлогу.
Зажмурыўся павук
і папоўз у цёмны кут.

Ляжыць белае шкарлупінне
на чорным прыпечку,
поўзае вялікая чорная муха
па белай сцяне,
стаіць ложак
у цёмнай спальні,
цьмяна пасвечваючы белай плямай
адзінокай падушкі.
Да ложка прытуліўся куфар.

Апошнім часам
штодня
пазяхае-адчыняецца
ягонае вечка,
і старая Настуля
дастае ношаную-пераношаную адзежу.
Глядзіць на яе старая Настуля,
перабірае дрыготкімі рукам
і акуратна складае назад.
Спачатку —
вялікія кашулі мужа,
пасля —

маленькія кашулі сына,
і нарэшцэ —
свае небагатыя ўборы.

Здалося Настулі надоечы,
што клікала смерць
і яе...

* * *

Якое шчасце:
сонца і не знае,
што вечар
кожны раз за ім пляцецца
і распускаюцца на небе
зоркі...

Яно б тады вярнулася, напэўна,
каб паглядзець
на гэты дуд
хоць промнем...

## ВЕЧАР

Адно вось на ганку жанчына
Даклічацца з вуліцы сына,
І можна да раніцы слухаць,
Як вецер таполінцы хлусіць,
Што лепшай ніколі не стрэне.
Як шэпчуцца шэрыя цені
Бярозы і клёна ля плота
І як уздыхае з самотай
Над імі ліхтар адзінокі...

Няхай адно тая жанчына
Даклічацца з вуліцы сына.

* * *

Кляла.
Клялася.
І крычала,
Нібы перакрычаць хацела
Яго тужлівае маўчанне.
У грубцы полымя гудзела.
І стыла на стале вячэра.
Падняўся.
— Ты куды?
— На волю.

Аб цішу стукнуліся дзверы
І цяжка скрыпнулі
Ад болю.

* * *

За целам пачала душа старэць.
Памёршы рана, толькі ў сны змаглі
Сыны прыйсці на маці паглядзець.
О, як душу хацелі ёй сагрэць!..

О, як душу балюча апяклі!..

* * *

Ад смеху зоркі ледзьве
Не ўпалі на зямлю,
Калі рачулцы Ведзьме
Шапнуў з нябёс
«Люблю» —
Нясмела месяц бледны.
О, дай ты рады, свет!
Прызнацца
Ведзьме?!
Бедны!
Ды гэта ж... гэта ж... гэт...
І сыпаліся жарты
З нябёсаў на вясну:
— Вось гэта густ!
Вядзьмарку!
— Не страшна?
— Ну і ну!
— Чаго ж ты зараз варты
— Дзівак і дуралей!
І месяц бледнатвары
Пасунуўся далей.

Назаўтра сонца росы
Збірала ў травах зноў.
Салёныя,
Што слёзы,
І цёплыя,
Што кроў.

**ВЯСЁЛЫ ВАНДРОЎНІК**

Вяртайся дадому,
Вясёлы вандроўнік.
Да родных вытокаў,
Бацькоўскага жалю.
Крынічнай вадой
Наталіся з дарогі,
І сэрца адпусцяць
Бясконцыя далі.

Чаго ты шукаеш у свеце
Нястомна?
Вясёлае шчасце
У поўную меру?
Дадому дарогі вядуць усе.
Толькі
Бываюць даўгімі яны
Неймаверна.

Не смейся са слоў...
Разумею усё я:
Наіўная мара,
Пустая надзея.
Я скора забуду цябе
Назаўсёды.
Альбо ад чакання свайго
Звар'яцею.

## СЯСТРА МАЯ МАЛАНКА

* * *

Пакуль жыве Надзея —
жыць душы.
Пакуль жыве душа —
квітнець надзеі.
І недзе ёсць
адна сярод вяршынь,
Якою лЁс
мяне яшчэ надзеліць,—
Калі са шляху
ўрэшце не сыду.
А да вяршыні
шлях заўжды адзіны.
І ён ляжыць праз радасць і бяду,
Праз боль і слёзы, і цяпло Радзімы.
Тут ёсць над чым падумаць, пагадаць.
Ды раз мяне дарога каля дому
Яшчэ чакае, то цяпер, відаць,
Я недзе ўсё ж патрэбен.
Вобзем
Стому!

* * *

На далёкай зямлі Казахстана
Земляка выпадкова сустрэну
І расказваць з ахвотаю стану
Пра благія і добрыя змены.

Не адну цыгарэту ён спаліць.
А ў канцы гэтай доўгай размовы
Уздыхне і прызнаецца з жалем,
Што сумуе
Без дома і мовы.

Пра сваё загаворыць вяртанне.
Спадзяваннямі сэрца натоліць.
Возьме адрас мой на развітанне
І ліста не напіша
Ніколі.

## ДАРОГА НАЗАД

Сярод тысяч
шырокіх, шумных дарог,
якія вядуць
уперад,
дзе ты,
крывая, ціхая дарога
назад? —
да забытага дому,
забытае мовы,
забытай Радзімы...

* * *

Не прасі прабачэння дарэмна:
Усё дала, што магла ты мне даць.
Ты мне болей ужо не патрэбна,
Ды не хочацца адпускаць.

Я знайду цябе ў парку халодным:
— Можа, прыйдзеш яшчэ да мяне?..
Вецер з вуснаў сарве тыя словы
І з размаху мне ў твар шпурляне.

**ВЕЦЕР**

І калі душа панікла
У журбе,
Я паслаў вясёлы вецер
Па цябе.
Што ёсць моцы паімчаўся ён,
Але
Пераблытаў вецер хаты
У сяле.
Заляцеў праз агароды
У канец
І прывёў тваю сяброўку
Да мяне.
На канапе яна ціхая
Сядзіць
І мне ў вочы так разгублена
Глядзіць.
Пахнуць вусны яе хмельнаю
Вясной.
Шчокі чырванню квітнеюць
Маладой.
Я дамоў яе на золку
Правяду
І ля хаты вецер сцішаны
Знайду.
Я паклічу вінаватага
Яго
І з надворка потым выжану
Свайго.
Паляціць ён
За маўклівае сяло.
У чыстым полі сабе
Выбера жытло.
А затым праз мой старэнькі
Сонны сад
Асцярожна зноўку вернецца
Назад.
І з зялёнае бярозкі
Каля плоту
Ён са злосці абарве
Усю лістоту.

* * *

Б'ецца птушкаю аб цемень
Чорны вецер у акне.
Я вярнуся позна вельмі,—
Што дарма чакаць мяне!

І на раніцу самотна
Не пытайся: дзе і з кім?
Я сустрэну адзіноту
У сонным горадзе начным.

Суцяшэннямі і ласкай
Не сунімеш гэты боль.
Аднаму мне сёння плакаць
І смяяцца — не з табой.

Пасмяюся і паплачу
З марных, стомленых надзей.
Усё-ткі, як нялёгка страчваць
Дарагіх сабе людзей!

Будзе доўга слухаць крокі
Чорны вецер нада мной.
Будзе ноч з душы патроху
Горкі боль высмоктваць мой.

* * *

Згублю палахлівую радасць
У цемры душы.
І пайду,
Сваю праклінаючы слабасць,
Самотную клікаць бяду.

Знаёмая гэта дарога.
І дом за ціхманай ракой.
— Дзень добры. Ну, як ты?
— Нічога.
Я зараз. Праходзь у пакой.

Напоўняцца кавай гарачай
Два кубкі.
— Бяры саладзі.
— Даўно твайго мужа не бачыў.
— Прыедзе — заходзь паглядзі.

Задумлівы вечар наступіць,
І ў цемры ягонай на міг
Дзве цёплыя зоркі патухнуць
Ад дотыку вуснаў маіх.

## БЯРОЗА

Устанеш
Пакрыўджана ў вочы зірнеш.
І бразнеш дзвярамі.
І зорнаю ноччу
Свой боль ад мяне ты
У сад панясеш
І выплачаш там яго
У адзіноце.
Не вернется ў хату.
І я не пайду
У сад сунімаць
Твае горкія слёзы.
Я заўтра туды
Выпадкова зайду
І ўбачу між дрэваў
Чужую бярозу.
Яна
Сярод яблыняў, вішань і сліў
Не ціхаю будзе красой
Вылучацца,
А ссохлай лістотай
І рухам галін
У сухое надвор'е,
Бязветраным часам.
І страшна мне будзе
Табе пазваніць.
І страшна глядзець
На бярозу
У садзе.
І страшна
Пайсці і ссячы яе.
Жыць з ёй побач нарэшце
Нясцерпна мне стане.

* * *

Пазайздрошчу я вольнаму ветру,
Як дагэтуль — нікому ніколі,
Бо вякамі шукаюць паэты
Не багацця, не славы,
А волі.

Пашкадую бяздомнага ветру:
Чаго вартая гэткая доля? —
Абысці ўсе краіны на свеце
І не мець
Ні Радзімы,
Ні дома.

## РАЗМОВА

Стукне туфлікаў пара
пад вечар
Аб падлогу
за шэрай сцяной.
Асцярожна
адчыняцца дзверы,
І дзяўчына
увойдзе ў пакой.
— Я гарбаты зраблю табе,
будзеш?
Папытаю
у госці сваёй.
— З мяне сёння
смяяліся людзі.
З беларускае мовы
маёй.
— Ну і як ты,
пакуль што жывая? —
З весялосцю скажу
напускной.—
Знаеш,
розныя людзі бываюць.
Я да гэтага
звыкся даўно.
Будзе жыць наша мова,
і болей
Аптымізму насі
у душы.
— Замаўчы! —
яна мовіць журботна
Замаўчы,
я прашу, замаўчы!
Апушчу на плячо яе
голаў:
— Я не знаю,
чым боль твой суняць.
І падступіць
пад самае горла
Цішыня,
цішыня,
цішыня…

**ПАГОНЯ**

Я крыкну
	і крык мой ахрыплы патоне
У стомленым груку гарачых падкоў.
Спынюся —
	мяне насцігае
Пагоня
Скрозь памяць далёкіх, забытых гадоў.

У чым вінаваты я перад табою,
О мудры мой продак?!
Скажы мне, а мо
Бярог ты Радзіму сваю тады болей?
І мы ж яе ворагам не аддамо!

Скрозь памяць ляцяць узмакрэлыя коні.
За што ты караеш?
Чаму ты маўчыш?
Бліжэй і бліжэй за спіною
Пагоня,
Ніжэй і ніжэй нада мною
Мячы...

## ДУША

Расстралялі паэта
І цела вярнулі зямлі.
І на неба душу адпусцілі паспешна.
Але ўгору ўзляцеў адно пылу зажураны клін,
А душа засталася
У вершах.

А калі тыя вершы схавалі ад зроку людзей,
Падалася душа вандраваць па краіне.
І, адкрытая свету,
Яна адчувала мацней
І любоў, і нянавісць.
І ў мілай Айчыне

Зарыдала душа —
у пякельных слязах да краёў,—
Закрычала душа прад людзьмі на каленях:
— Што ж вы робіце з моваю
Вашых бацькоў і дзядоў!
Што ж вы так пагарджаеце
Вашым найменнем!

Здрыганулася неба.
Сарваліся спуджана і —
Зіхатлівыя зоркі уніз паляцелі.
Толькі людзі не чуюць
Ні крыку,
Ні плачу,
Калі
Не адзета душа
І ні ў верш,
І ні ў цела!

Расстралялі паэта
І цела вярнулі зямлі.
У трыццатыя
Гэта рабілі паспешна.
Узлятаў над Айчынаю пылу зажураны клін,
А душа заставалася ў вершах.

**ДА СЯБЕ**

Давай і мы
Паплачам,
Наслухаўшыся
Спрэчак:
Паэзія,
Няйначай,
Атручана
Прагрэсам.

Але, мой мілы,
Раю
Хаця б сабе
Прызнацца,
Што гэта
Паміраюць,
Магчыма,
Душы
Нашы...

## ВЭРХАЛ

У прыродзе — вэрхал.
Уперадзе, ззаду, пад нагамі, уверсе
кругом снег.
Навобмацак іду па снезе,
каб не адступіцца ад яго
і не ўваліцца —
у снег.
Хто б мог падумаць,
што вецер бывае
гэткі вусцішны.
ён спіхнуў з неба ветах,
і той,
ці не зачапіўшыся за якое дрэва,
ледзь прасвечваючыся праз снег,
вісіць у вёсцы
адзіным ліхтаром.
Хто б мог падумаць,
што вецер можа гэткае вычмурыць.
Часам ён
шпурляе з неба зоркі,
і тыя коцяцца
па халодным снезе
машыннымі фарамі,
пакуль не патухнуць
за павароткай.
Даходжу да вёскі,
углядаюся ў снег
і дзіўлюся,
якімі высокімі сталі за вечар дрэвы.
Іх вершаліны губляюцца недзе там,
у небе,
а дрэвы ўсё цягнуць і цягнуць
свае дрыготкія голыя галіны
ўгару,
нібыта баяцца патануць
у снезе,
нібыта там іх паратунак.
Яны цяжка і працягла рыпяць.

Я чую, як трашчыць і рвецца
іх памарожанае карэнне,
якое тыя з усіх сіл
стараюцца выдзерці з прамёрзлай зямлі.
Мне становіцца страшна.
Я адчуваю на сабе
нечы пільны позірк...
Я чую нечыя крокі...
і ледзь не подбегам
спяшаюся да свае хаты.
Ужо ля самых веснічак
пад ногі мне трапляецца
нечае шэрае кацяня.
Ледзь не наскочыўшы на яго,
я ціха лаюся
і нагою адштурхоўваю кацяня
у снежную гурбу.
Адтуль яно пачынае моцна крычаць,
і я зноў,
ужо ля парога,
ціха лаюся.
У хаце супакойваюся,
пачынаю распранацца.
Праз снег,
праз акно,
праз сцены
даносіцца крык кацяняці.
Крык то заціхае,
то мацнее.
Урэшце я не магу болей трываць
і выходжу на двор.
Кацяня сядзіць недзе ля плота,
за рухомай сцяной снегу.
Я клічу яго,
я хачу падысці,
каб узяць і пагрэць яго,
але тут жа правальваюся ў снег
па самае калена.
Раззлаваўшыся,
хапаю нейкую палку
і папускаю туды,

у снег.
Кацяня змаўкае.
Я вяртаюся ў хату.
Выключаю святло.
Засыпаю.
Пад раніцу,
растросшы апошнюю хмару,
вецер сціхае.
Прахопліваюся.
Гляджу ў акно
на цішыню.
Хочацца выйсці
падыхаць свежым паветрам.
Адчыняю дзверы.
На парозе ляжыць
нежывое шэрае кацяня.

## ХВІЛІНЫ

Мне заўсёды здавалася,
што не хапіла
аднае-адзінае хвіліны,
каб давесці што-небудзь
да поўнага ладу.

Ішоў час,
хвіліны тыя
складаліся ў дні,
дні ў месяцы,
месяцы ў гады.

Цяпер тых гадоў
набралася роўна столькі,
колькі гадоў і мне.

## ДОМА

З ранку да вечара
У хаце вартуе
Цішу
Замок на дзвярах.

Недзе пад прыпечкам
Моцна сумуе
Чорны
Дзіцячы мой страх.

Скрыпне пад вечар
Спалохана брамка.
Цень прапаўзе
Па акне.

Можа, нарэшце
Старая паштарка
Ліст прынясе
Ад мяне.

## СУР'ЁЗНЫ ЖАРТ

Ціха ў пакоі.
Папера і стол.
Сонечны промень
да твару прытуліцца.
Нам на дваіх бы
натхнення глыток,—
Пішацца цяжка
пасля Барадуліна.
Вечарам прыйдзе
сусед пасядзець.
Чмокнуцца чаркі
ілбамі расчулена.
Доўга святло яшчэ
будзе гарэць,—
Пішацца лёгка
пасля Барадуліна.

* * *

Дарога. Поўдзень. Стэп. Сухмень.
Ні вёсачкі, ні горада.
Пад куст залез лупаты цень,—
Горача!

* * *

Змяняецца на сум шчымлівы боль.
Сціскаючыся, сэрца адчувае,
Як памяць аб сустрэчах тых з табой
Пакутліва і доўга памірае.

Абрыўкі застаюцца ад размоў.
Куды ад гэтакай навалы дзецца?!
Я голас твой прывёз к сабе дамоў,
Ды без цябе ён хутка задыхнецца...

* * *

Ты яшчэ ў маіх словах не бачыш маны.
І зрываеш са свечкі лісток пажаўцелы.
І ўзнікае у цемры на фоне сцяны
Белым ценем тваё сарамлівае цела.

Ты яшчэ усё верыш прызнанням маім.
Праганяеш мой сум то пяшчотай, то смехам.
Праклінаю свой лес, які звёў,
Ды не з тым,
Не з каханым, з чужым чалавекам.

І я ўдзячны табе за даверлівасць
Ды
За сарванае лісце са свечак паўночных.
Калі-небудзь ты пойдзеш адсюль назаўжды,
І я стану ізноў, як раней, адзінокім.

* * *

Цэлы дзень кастрычнік сеяў
дождж,
і вось зараз,
пад вечар,
на голых галінах дрэў,
на апалым лісці,
на дахах дамоў
паволі
узыходзіць
смутак.

Дарэмная ўцякаў
ад таго дажджу
і радаваўся,
стоячы на ганку,
што ён не застаў мяне.

Халодны восеньскі дождж
ішоў проста
на маё сэрца.

## У ТУМАНЕ

Нехта нябачны
У шэрым тумане
Ціха гукаць мяне
Вечарам стане
Голасам, поўным
Пяшчоты і болю.
— Хто ты? — спытаю.
Адкажа мне:
— Воля!
Толькі пачну
Да яе набліжацца —
Гол ас паціху
Пачне аддаляцца.
Следам пайду я,
І будзе навокал
Шэры туман,
Хоць выкалі вока.
Сэрца заные,
І стомяцца ногі.
Стану.
Адчую,
Што збіўся з дарогі.
Гляну я ўніз —
Там недзе
Далёка
Сонца пачне
Выплываць з-за аблокаў.

* * *

Уздыхнём, што не знаем нічога
Аб мінуўшчыне роднай зямлі,
І суцешымся:
Хоць, дзякуй богу,
У душы сваёй памяць-трывогу

Аб апошняй вайне зберaглі.
Аб апошняй вайне зберaглі
У душы сваёй памяць-трывогу.
Азірнёмся назад,
На дарогу,
І разгледзім адно абеліск.

Ну, а болей не ўбачым нічога.
Ну, а болей не ўбачым нічога.
Мы разгледзім адно абеліск.
Там салдаты
Пад ім палеглі,
Каб у нас не забралі святога,—
Каб імя сваё мы зберaглі.

Чаго варта імя
Без мінуўшчыны?
Небяспечна свабода
Без памяці...

* * *

Калі-небудзь ты ўсё-ткі паверыш.
Задуменна кіўнеш галавой:
Прарастаюць цудоўныя вершы
І на Белай радзіме маёй.

А іх прысмак гаркава-салодкі —
Азірніся, мой дружа, назад —
Ад усмешкі бяскрыўднае продка,
На якой заблудзіла сляза.

## БРАНХІТ

Раніца.
Зноўку у сонечных промнях
купаецца
Восень раздзетая.
Дзе ты,
Свята звычайнае працы?
Колькі ж у ложку валяцца
Можна з прастуджаным
Горлам?!
Гол ас,
Сіплы,
маўчаннем натруджаны,
Голас таксама
прастуджаны.
Не разумею:
Ці кружыцца гэта
Толькі мая галава,
Ці—
планета?..
Пэўна, прастуджана
памяць.
Спаць —
немагчыма.
Чуць —
немагчыма,
Як з календара
Па вечарах
З трэскам здзіраюць лісткі.
Нервы —
прастылі.
Якім
Час цяпер стаў нетаропкім!
Крокі.
— Дзень добры!
Даруй,
Што не прыходзіла доўга.
Як ты?
— Ды сёння —
наогул цудоўна.

## ВЕЧАРАМ

Вокны завешу марозам.
Вечар цішком падкуплю.
Будзе ён, страціўшы розум,
Тыдзень маўкліва зямлю
Лёгка кружыць у абдымках.
З неба дастану завей.
Цяжка яны будуць дыхаць
На ланцугу ля дзвярэй.
Выйдзеш у золкія сенцы
На цемнату паглядзець.
Потым дасі сваё сэрца
Сэрцам сагрэць.

## НЕДАВЕР

Мне смешна,
калі,
забраўшыся з нагамі ў крэсла
і абняўшы свае вострыя каленцы,
ты гаворыш аб тым,
што не верыш людзям.

Мне сумна,
калі,
апусціўшы свае задуменныя
блакітныя вочы,
ты гаворыш аб тым,
што не верыш і мне.

Я іду да бліжэйшага кіёска
і купляю
жоўты паветраны шарык.
Надзьмуўшы яго,
дастаю аўтаручку
і вялікімі літарамі пішу на ім,
што вельмі кахаю цябе.
Пасля аддаю гэты шарык
ветру,
а сам бесклапотна
блукаю па горадзе
да самага вечара.

Увечары
на небе
жоўтым месяцам
узыходзіць мой паветраны шарык,
на якім вялікімі літарамі напісана,
што я вельмі кахаю цябе.

Я вяртаюся да твайго дома
і доўга стаю ля дзвярэй,
баючыся і зараз сустрэць
твой недаверлівы позірк.

* * *

...Тады нас
Праклялі
Нянавісць
І любоў,
І каб мы ўжо
Не змаглі
З табой
Сысціся зноў.

Не тое што
Крычаць,
Паплакаць
На плячы,—
А нават
Памаўчаць
Няма,
Няма аб чым.

## ЦЕНЬ

— Дык ідзі!
І ты паволі
Пойдзеш у блакітны снег.
Я табе не веру болей,
Што разлука нас міне.

Паклянуся больш не верыць
У нямую шчырасць воч.
Сонны вечар, сумны вечар
Непрыкметна змеціць ноч.

Я прыйду дадому позна.
Стану слаць сабе пасцель.
Нахілюся — а на ложак
Раптам ляжа асцярожна
Да цябе падобны цень.

* * *

Мяняю крык і шум
на цішыню з ахвотай.
Мяняю ўсіх сяброў
на месяц адзіноты.
Мяняю ўласны дом,
што мае восем вокан,
На домік, што ўгару
глядзіць адзіным вокам.
Мяняю на двары
стаптаную дарожку
На каляровы сон
у мяккім, цёплым ложку.
І буду жыць адзін
без гора і дакукі.
Калі ж нарэшце ўсё
мне гэта надакучыць,—
У сад пайду, на пні
варону там пазнаю.
На крык яе
сябе
Вазьму і прамяняю...

* * *

Каторы дзень

даймае холад лета,

на вокнах дождж
празрыстаю завесай,

і трызняць вершы
вуснамі паэта,
журботныя, прастуджаныя вершы.

* * *

Радасць і сум засталіся
Моўчкі чакаць за парогам.
Гэта нічога.
Стаміўся.
Гэта ж усё ненадоўга.

Неяк зусім бясклапотна.
Толькі міжволі здаецца,
Быццам пакінула ўпотай
Грудзі —
Уласнае
Сэрца.

## БЕЗ ЦЯБЕ

Мне апрыкрае быць аднаму.
Пасмяюся з уласнага болю,
Адпушчу яго з богам на волю
І надзею з сабою вазьму.

І па вуліцах шумных хадзіць
Не стамлюся, нязвыкла вясёлы.
Зразумею, што лепшае ўсё-ткі
Яшчэ прыйдзе да нас пагасціць.

Што без болю не будзе любві.
Без разлукі не будзе сустрэчы.
Што жыццё — гэта міг,
І не трэба
Усё растраціць яго на рублі.

І пачуўшы ў стракатай гурбе
Ля чаргі магазіннае сварку,
Засмяюся душою і тварам:
Як не цэнім мы час і сябе!

І мне ў вочы жанчына зірне,
Што са мною ісці будзе побач,
І, напэўна, палічыць употай
Дзіваком ці вар'ятам мяне.

* * *

Вецер пасе маладыя аблокі
Над вечаровай зямлёй.
Усё-ткі з табою не так адзінока,
Верш недапісаны мой.

У невялічкім утульным пакоі,
Даўшы прыстанак журбе,
Усё-ткі прыемна паціху з табою
Слухаць самога сябе.

Выкале вока вячэрняя цемра.
Толькі я знаю: твае
Ціхія словы,—
Салодкая ўцеха,—
Будуць усе
Пра Яе.

* * *

Абняла і прамовіла ціха:
— Можа, мы не пабачымся больш.
Ну, куды ты, пабудзь яшчэ крыху.

І хіснулася лесвіца ўбок.
І прыступкі згубіліся ў ночы.
Без цябе
столькі часу
як змог?

Дацягнуўся да выхаду моўчкі
І дарогу разгледзеў ля ног.
І дарога ўпіралася ў дом
Не пачаткам сваім, а канцом.

* * *

Снег таропкі.
Пабялелы
І аглушаны ім ранак.
Вашы думкі вам балелі
Успамінам,
Нібы раны?

Той жа горад.
Той жа скверык.
Я ізноў сюды вярнуўся.
Белы снег на белым свеце.
Пад яго цяжарам
Гнуся.

## ГОСЦЬ

Жывуць у небе змалку
На лецішчы вятроў —
Сястра мая маланка
І сумны брат мой гром.

Там холад і пустэча,
І ціш ва ўсіх канцах.
І цьмяна зорак свечкі
Там свецяць па начах.

На раніцу прачнуся
Ад холаду,
І зноў
Захочацца вярнуцца
З гасцей хутчэй дамоў.

## ГОРАД

Горад як горад.
З цішынёю дамоў,
дзе глядзяць дапазна тэлевізары.
З магазіннай чаргой,
то сварлівай,
то надта вясёлай,
у залежнасці ад тавару.

Горад як горад.
З важнымі плошчамі,
сціплымі скверамі,
з вуліцамі і завулкамі,
на якіх застаюцца
пасля навальніцы
вялікія лужыны.
З пустыром на ускраіне, дзе
узвышаюцца горкі
шматабяцальнае цэглы.

Горад як горад.
Тут не ходзяць тралейбусы
і не грукочуць трамваі.
Адзінокі маршрутны аўтобус
акуратна спраўляецца
са сваёю работай.
Тут не вельмі шматлюдна,
затое
тут багата сяброў і знаёмых.

Горад як горад.
Некім любімы,
некім забыты,
камусьці зусім непатрэбны.
Чую,
як стукае ціха
ягонае сэрца.
Бясконца
слухаю думкі ягоныя.

Часта
ненавіджу
свой горад,
а часта —
люблю.
Мы падобныя з ім
як дзве кроплі,
дакладней,
гэты гор ад —
я
сам.

* * *

Пакуль груган спакою
Душу дзяўбці не стане,
Датуль не знаць ніколі
У сабе расчаравання.

Датуль шукаць мне долю,
Ледзь зоймецца дасвецце.
Вяртацца зноў дадому.
Датуль мне жыць на свеце.

* * *

Ні хвіліны не вернеш назад.
Пройдзе час,
І на сціхлай зямлі
Будзе гэтак жа нехта казаць:
«Мы не здолелі...
Не збераглі...
Вінаватыя
мы...»
І ніхто
Не асмеліцца вымавіць
«я».
І, магчыма, з жалобаю той
Будзе звязана смерць мая.
Мабыць, будзе па свеце тады
Недзе лепшы сябрук вандраваць
І не зможа прыехаць сюды,
«Ты даруй мне»,— паціху сказаць.
Бо іначай...
Не страшуся мук
Пасля смерці,
І ўсё ж невыносна
У магіле ляжаць аднаму,
Калі жыў на зямлі
адзінока!

**ЗМЕСТ**

Хвіліны
Дома
Сур'ёзны жарт
«Дарога. Поўдзень. Стэп. Сухмень...»
«Змяняецца на сум шчымлівы боль...»
«Ты яшчэ ў маіх словах не бачыш маны...»
«Цэлы дзень кастрычнік сеяў...»
У тумане
«Уздыхнём, што не знаем нічога...»
«Калі-небудзь ты ўсё-ткі паверыш...»
Бранхіт
Вечарам
Недавер
«...Тады нас...»
Цень
«Мяняю крык і шум...»
«Каторы дзень...»
«Радасць і сум засталіся...»
Без цябе
«Вецер пасе маладыя аблокі...»
«Абняла і прамовіла ціха...»
«Снег таропкі...»
Госць
Горад
«Пакуль груган спакою...»
«Ні хвіліны не вернеш назад...»

Бадак А.
Б 15 Будзень: Вершы/Прадм. Ул. Някляева.— Мн.: Маст. літ.,1989.— 79 с.— (Першая кніга паэта)

ISBN 5-340-00385-Х.

Бадак А. Будний день: Стихи.

У маладога паэта звычайная біяграфія — вясковае дзяцінства, служба ў арміі, вучоба на філфаку універсітэта. Лірычна асэнсоўваючы гэты свой невялікі жыццёвы вопыт, Алесь Бадак свабодна ператварае яго ў паэзію пачуцця, у паэзію настрою.

Б 4702120202-066
М 302(03) — 89 68—89

ББК 84 Бел 7

---

Литературно-художественное издание
БАДАК АЛЕКСАНДР НИКОЛАЕВИЧ
Будний день
Стихи
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Літаратурна-мастацкае выданне

БАДАК АЛЕСЬ МІКАЛАЕВІЧ
Будзень
Вершы

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак У. В. Адамчык. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Л. М. Маслоўская.
ІБ 3188
Здадзена ў набор 26.10.88. Падп. да друку 11.01.89. АТ 08281. Фармат 70Х90 1/32. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,93. Ум. фарб.-адб. 4,47. Ул.-выд. арк. 2,24. Тыраж 3000 экз. Зак. 1947.
Цана 25 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.